# БАЦЬКАЎШЧЫНА

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠĆYNA“ („VATERLAND“)
Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Die Administration: (13 b) München 15, Pettenkoferstr. 23/I.
Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46 a.
**Цана паза Нямеччынай:** ЗША — 15 цэнтаў, Канада — 15 ц., Ангельшчына — 1 шылінг, Францыя — 20 фр., Бэльгія — 5 фр., Аўстралія — 1 шылінг, Аргентына — 2 пэзо. У іншых краінах раўнавартасьць 15 ам. цэнтаў. Цана лётніцкай поштай у заакіянскія краіны — 30 ам. цэнтаў. — Падвойныя нумары каштуюць падвойна.
**Банкавае конто:** Administration der weissruthenischen Zeitung „Baćkauscyna“ Bankkontonummer 357-125 Bayerische Hypotheken- und Wechselbank, München.

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND“

№ 14 (244) — 3 красавіка 1955 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 9


# Абвешчаньне ялтанскіх дакумэнтаў

Ня гледзячы на супрацію ураду Вялікабрытаніі, міністэрства замежных справаў Задзіночаных Штатаў Амэрыкі абвесьціла 17 сакавіка сёлета тайныя пратаколы й дакумэнты канфэрэнцыі ў Ялце, якая адбылася дзесяць год таму назад — у лютым 1945 году і вынікі якой гэтак моцна заважылі на разьвіцьці міжнародных узаемадачыненьняў у пасьляваенным пэрыядзе. Характэрна, што, як афіцыяльна паведамлена, абвешчаньне ялтанскіх дакумэнтаў адбылося бязь ведама прэзыдэнта Айзэнгаўэра.

Абвешчаныя міністэрствам замежных справаў ЗША ялтанскія дакумэнты абыймаюць 834 балоны друку і звыш поўмільёна словаў. Як падаюць вашынгтонскія ўрадавыя колы, было пастаноўлена безадкладна апублікаваць гэтыя дакумэнты дзеля таго, што рэдакцыі аднэй амэрыканскай газэты ўдалося здабыць копію ялтанскіх пратаколаў. Удзельнікамі ялтанскай канфэрэнцыі, як ведама, былі прэзыдэнт ЗША Франклін Рузвэльт, прэм'ер Вялікабрытаніі Чэрчыль і Сталін.

Ялтанскія пратаколы пацьвярджаюць, што амэрыканскі прэзыдэнт Рузвэльт даў у Ялце Сталіну вялікія канцэсіі, каб сьхіліць Савецкі Саюз да прыступленьня да вайны супраць Японіі. Гэтымі канцэсіямі, як ведама, былі: а) перадача Савецкаму Саюзу японскага паўдзённага Сахаліну, багатага нафтай, б) перадача Савецкаму Саюзу вельмі важных із стратэгічнага гледзішча японскіх Курыльскіх астравоў, в) адступленьне Савецкаму Саюзу аднаго незамярзаючага порту ў Манджурыі, г) перадача Савецкаму Саюзу ўсходнясібірскай і манджурскай чыгуначнай магістралі, якая раней была купленая Японіяй ад Расеі.

Істотная часьць ялтанскіх дакумэнтаў датычыць нямецкага пытаньня. І так вялікая тройка ў прынцыпе згадзілася ў Ялце на пасьляваенны падзел Нямеччыны, хаця яшчэ ня прыняла пастановаў што да спосабу гэтага падзелу. Далей, была ўстаноўленая лінія Одра-Ніса, адабраньне Ўсходніх Прусаў і пытаньне нямецкіх рэпарацыяў. Была таксама дасягнутая згода што да падзелу Нямеччыны на акупацыйныя зоны, пры чым было пастаноўлена адступіць адну акупацыйную зону і для Францыі. Аднак Сталін і Молатаў пры гэтай нагодзе выступілі супраць пашырэньня кола вялікай тройкі на Францыю.

Ня менш істотнай справай ялтанскіх пастановаў было стварэньне «дэмакратычных урадаў» для дзяржаваў Усходняе Эўропы, перадусім у Польшчы, што прывяло пазьней да паўстаньня сатэлітаў Савецкага Саюзу. Іншымі пытаньнямі ялтанскай канфэрэнцыі было пытаньне Дарданэляў і прыгатаваньне канстытуцыйнага сабраньня Задзіночаных Нацыяў.

Ялтанская канфэрэнцыя, як ведама, датычыла і некаторых важных пытаньняў Беларусі. Гэта тут была прынятая канчальна пастанова аб прызнаньні г. зв. лініі Кэрзона, як граніцы між Беларусяй і Польшчай, «папраўленай» пазьней Сталінам адступленьнем Польшчы беларускай Беласточчыны з поўмільённым беларускім насельніцтвам, і аб увядзеньні Беларусі ў склад Задзіночаных Нацыяў, як раўнапраўнага партнэра гэтай сусьветнай міжнароднай арганізацыі і яе заснавальніка.

Яшчэ ня маем перад сабой поўнага тэксту ялтанскіх пастановаў ў справе Беларусі. Заходняя прэса цяпер падае толькі кароткі зьмест і камэнтары да ялтанскіх дагавораў. Вось што ў справе прыняцьця Беларусі ў Задзіночаныя Нацыі піша мюнхэнскі штодзёньнік «Зюддойче Цайтунг» у нумары за 19 сакавіка сёлета:

«Чаму Савецкаму Саюзу ў Задзіночаных Нацыях (прыняцьцем Украіны і Беларусі ў склад сяброў ЗН з правам галасу) былі прызнаныя тры галасы, дакумэнты не даюць задавальняючага паясьненьня. Існуе толькі высказваньне Альджыра Гіса, асуджанага пазьней за зраду дзяржаўных тайнаў на доўгія гады пазбаўленьня волі, што Молатаў аднаго дня падчас канфэрэнцыі асьветчыў: «Ужо пастаноўлена, што Украіна і Беларусь будуць запрошаныя на канфэрэнцыю ў Сан-Францыско (ЗН) у характары сяброў заснавальнікаў». Рузвэльт на гэта адказаў: «Гэта для мяне вельмі вялікая неспадзеўка». А Чэрчыль сказаў: «Калі гэта цяпер дойдзе бяз прыгатаваньня да ведама публічнай апініі, дык паўстануць цяжкасьці».

Пытаньне гэтае было тады адложанае і ня было ўспомненае ў афіцыяльных паведамленьнях аб скліканьні канфэрэнцыі ў Сан Францыско. Толькі некалькі тыдняў пазьней сталіся ведамымі запросіны Украіны й Беларусі і выклікалі ў Амэрыцы войстрыя спрэчкі, у якіх рэспубліканцы закідалі Рузвэльту, што ён зрабіў Сталіну несправядлівую ўступку.

Зацемкі Альджыра Гіса паказваюць, што тагачасны дараднік Рузвэльта ў справах замежнай палітыкі, пазьнейшы міністар замежных справаў Бэрнс быў незадаволена зьдзіўлены, калі Рузвэльт згадзіўся, каб Савецкі Саюз атрымаў у Задзіночаных Нацыях тры галасы. Бэрнс сказаў, што ў такім выпадку мусілі-б атрымаць права голасу таксама Порта Рыка, Гаваі і Аляска».

Важнейшыя пастановы ялтанскай канфэрэнцыі ведамыя даўно перад іхным апублікаваньнем. Яны былі прыводжаныя ў многіх пасьляваенных успамінах, перадусім-жа ў найбольш вычэрпваючых успамінах Чэрчыля. Але гэта не паменшае значэньня цяперашняга апублікаваньня тайных ялтанскіх дакумэнтаў. У вадцемленых успамінах яны маглі быць недакладнымі і, як правіла, ня былі між сабой павязанымі, будучы вырванымі часткамі зь вялізарнае цэласьці. Пры гэтым, яны не маглі мець значэньня афіцыяльных аўтэнтычных дакумэнтаў. Затое апублікаваны цяпер поўны тэкст тайных дакумэнтаў Ялты атрымлівае поўную вартасьць афіцыяльнага аўтэнтычнага дакументу, якому было суджа-

**(Заканчэньне на 4-ай балоне)**

# Няудалая аналегія

У мінулым нумары «Бацькаўшчыны» была гутарка аб тым, што мы павінны разьбіваць цьверджаньні расейскіх шавіністых, якія прадстаўляюць Захаду нацыянальныя праблемы СССР у зусім хвальшывым сьвятле, а з другога боку даваць свае факты й аргуманты, якія дазволяць зрабіць правільныя вывады ў вадносінах нацыянальнага пытаньня. Сяньня мы крыху спынімся на першым.

Вельмі часта, каб пераканаць Амэрыканцаў, што нацыянальныя праблемы на ўсходзе Эўропы ня існуюць, а калі й існуюць, дык яны павінны абходзіць толькі самых Расейцаў і імі быць разьвязаныя, расейскія шавіністыя паклікаюцца на адну аналёгію, якая, калі прыглядзіцца бліжэй, ня вытрымоўвае ніякае крытыкі. Вось-жа яны прабуюць даводзіць, што Задзіночаныя Штаты ў сваёй гістарычнай эвалюцыі, фактычна мала чым розьняцца ад расейскае імпэрыі: Расея заваёўвала новыя краіны, калянізавала й русыфікавала іх — тое самае рабілі й Задзіночаныя Штаты; расейская імпэрыя зьяўляецца шматнацыянальнай — ЗША таксама; сучасны СССР складаецца з шэрагу паасобных рэспублікаў, ЗША — з паасобных штатаў. Вывяўшы такую «аналёгію» — яны адразу-ж задаюць пытаньне Амэрыканцам: «Згадзіліся-б Вы даць поўную незалежнасьць кажнаму штату, г. зн. — згадзіліся-б вы на падзел ЗША?» Ясна, што адказ кажнага Амэрыканца будзе адмоўны. І тады Расеец з выглядам пакрыўджанага кідае: «Дык на што-ж тады гаварыць аб падзеле расейскай імпэрыі? Чым мы горшыя?»

І, нажаль, нярэдка здараецца гэтак, што на такую «аналёгію» й вывады базаваныя на ёй, бяруцца Амэрыканцы ня горш, чымся некаторыя на камуністычную візію ідэальнага сьвету й раю на зямлі.

Цяпер вось прыгледзімся да фактаў, каб пабачыць, ці можна наагул гаварыць аб нейкай аналёгіі ў эвалюцыі ЗША і расейскай імпэрыі.

**Амэрыканскі й расейскі экспансіянізмы** — дзьве розныя рэчаіснасьці, якія розьніліся ня толькі сваёй натурай, але й мэтамі, якія яны ставілі перад сабой. Масава прыбываючыя ў Амэрыку эўрапэйскія каляністыя не маглі ўвесь час пасяляцца на ўзьбярэжжы ў ваколіцах сучаснага Нью Ёрку. Зусім натуральна, што чым больш павялічвалася насельніцтва Новага Сьвету, тым больш узрасталі патрэбы калянізаваньня новых прастораў, што ляжалі далей на захад і былі вельмі рэдка заселенымі мясцовымі няцывілізаванымі індыянскімі плямёнамі. Выходзячы навет з натуральнага права, гэтая экспансія й калянізаваньне новых абшараў Амэрыканцамі былі поўнасьцяй апраўданыя, хоць, іншая рэч, часта мэтады, якімі яны карысталіся ў вадносінах да мясцовых плямёнаў, маглі быць апраўданыя толькі «правам мацнейшага». Калі патрэба цывілізаваньня цэлага новаадкрытага кантынэнту ды прадстаўленьне на ўслугі людства натуральных багацьцяў дагэтуль неэксплятаваных гэтага кантынэнту было галоўным маторам экспансіі Амэрыканцаў, дык чым-жа можа быць апраўданая й выясьненая экспансія Расейцаў? Вось-жа, калі яе можна яшчэ ў той ці іншы спосаб выясьніць, дык затое апраўдаць нельга нічым. Яны-ж хіба ня скажуць, што падбіваючы й панявольваючы суседнія народы, яны таксама кіраваліся мэтамі агульнага людзкага дабра, г. зн., што хацелі цывілізаваць, прыкладам, Беларусь, Украіну, Грузію ці Армэнію? Гэткі-б аргумант ужо адпаў хоць-бы толькі таму, што цывілізацыю Расейцы пераймалі якраз ад пералічаных народаў, якія сваёй культурай стаялі непараўнальна вышэй за Расейцаў. Тут мэтай заваёваў было імкненьне да панаваньня над іншымі народамі праз стварэньне як найбольш магутнай імпэрыі, хоць-бы й на руінах зьнішчаных куды вышэйшых культураў. А дзеля гэтага выводжаньне нейкае «аналёгіі» між двума ўспомненымі экспансіянізмамі зьяўляецца поўным абсурдам.

Ня меншай недарэчнасьцяй зьяўляецца паказваньне на «аналёгію» **шматнацыянальнасьці ЗША і СССР.** ЗША зьяўляюцца дзяржавай аднае нацыі — Амэрыканцаў. Гэтая нацыя, хоць і тварылася з выхадцаў шматлікіх краінаў, што, сюды дабраволна пераехаўшы, уліліся ў вагульную сям'ю, але ўжо зьяўляецца настолькі апрычонай, што дзяліць яе на паасобныя нацыі ўжо немагчыма. Тымчасам на тэрыторыі СССР, ня гледзячы на ўсе экспэрымэнты зь перасяленьнямі, ня гледзячы на калянізацыйную акцыю Масквы, ці то царскай ці чырвонай, паасобныя нацыянальнасьці стагодзьдзямі жывуць кампактнай масай на сваіх этнаграфічных землях, карыстаюцца сваімі апрычонымі мовамі ды пры найменшай спрыяльнай нагодзе дабіваюцца сваіх нацыянальных правоў і ймкнуцца ськінуць зь сябе ярмо панявольнікаў — Расейцаў.

У сувязі з гэтым адпадае й «аналёгія» між **амэрыканскімі штатамі й савецкімі нацыянальнымі рэспублікамі.** У васнову амэрыканскага штату быў пакладзены прынцып геаграфічна-эканамічны, са-

**(Заканчэньне на 2-ой балоне)**

# „Дзеіць у кірунку вызваленьня паняволеных народаў ёсьць маральным і палітычным абавязкам заходняга сьвету“

**«Ідэя коэгзыстэнцыі ёсьць ня чым іншым, як прызнаньнем «статусу кво», г. зн. несправядлівасьці»**

Пад такім загалоўкам гішпанская прэса 7 і 8 сакавіка сёлета зьмясьціла дэклярацыю генэралісімуса Франко, зьмест якой падаём за штодзёньнікам «Пуэблё» («Народ»), № 4823 за 7. 3. 1955 г.

«Разьвязаньне крызысу — сказаў Генэралісімус — павінна быць адкрытай і энэргічнай ініцыятывай Захаду, накіраванай заклікаць да акцыі прыгнечаныя сілы на тэрыторыі савецкай імпэрыі. Ёсьць маральным і палітычным абавязкам заходняга сьвету дзеіць у кірунку вызваленьня паняволеных краінаў дзеля таго, што датычыць гэта будучыні нашай вольнай і хрысьціянскай цывілізацыі. Сілы Захаду ня маюць права на гандаль жыцьцём і свабодай народаў Усходняе Эўропы. Ідэя коэгзыстэнцыі, якая абазначае ў першую чаргу прызнаньне «статусу кво», несправядлівасьці, найжахлівейшай у гісторыі інвазіі, зьяўляецца сорамам для маральнага сумленьня вольнага сьвету, для ягонае палітычнае інтэлігенцыі.

Захад павінен зразумець, што вызваленьне паняволеных народаў зьяўляецца адзіным шляхам, каб забясьпечыць сваю собскую свабоду і бясьпечнасьць, так моцна загрожаныя сяньня савецкай Расеяй. Вялізарны патэнцыял, які прадстаўляюць сабою паняволеныя народы, як рэзэрвы маральных ды актыўных антыкамуністычных сілаў, становяць новае аружжа, якое, калі-б было ўжытае, задэцыдавала-б у канфлікце, у якім мы заангажаваныя, так як ня існуе мацнейшага аружжа дзеля дэзінтэграцыі савецкай тыраніі. Вызваленьне прыгнечаных краінаў абазначала-б вызваленьне Захаду.

Калі Захад хоча запабегчы атамнай катастрофе, мусіць распачаць актыўную й сталую палітыку вызваленьня, адказваючую рэвіндыкацыям прыгнечаных народаў, не ашукваючы іхных надзеяў.

Народы, што сяньня знаходзяцца за г. зв. зялезнай заслонай, уключна з расейскім, мусяць атрымаць катэгарычныя гарантыі свабоды і незалежнасьці, каб такім чынам іхныя патрыятычныя сілы змаглі ўступіць у змаганьне бязь ніякіх засьцярогаў.

У гэтых нацыянальных сілах, сілах людзкой свабоды, знаходзіцца запраўднае вырашэньне сучаснага крызысу. Адданьць гэтыя народы савецкай Расеі абазначала-б адмовіцца ад перамогі».

З гэткай дэклярацыяй пад адрасам паняволеных расейскім бальшавізмам народаў выступіў шэф гішпанскай дзяржавы генэралісімус Франко, які яшчэ сяньня абвінавачваецца многімі заходнімі дзяржавамі ў фашызьме і байкатуецца імі. Але, нажаль, ніводзін дзяржаўны муж гэтых дэмакратычных дзяржаваў Заходняе Эўропы яшчэ ня выступіў з такой шляхотнай дэклярацыяй у дачыненьні да паняволеных народаў і ў вабароне справядлівасьці, як гэта зрабіў «фашысты» Франко.

# Узмацненьне антысавецкіх настрояў у ЗША

Пасьля ведамых асьведчаньняў міністра замежных справаў ЗША Дальлеса, што Амэрыка ня будзе рабіць далейшых уступак перад камуністымі і станоўча наважаная бараніць перад камуністычнай агрэсіяй Фармозу навет збройнымі сіламі, і пасьля выразна пазытыўнай рэакцыі на гэтыя асьветчаньні абедзьвюх фракцыяў Кангрэсу — рэспубліканскай і дэмакратычнай, у Амэрыцы што раз часьцей падносяцца галасы пакончыць з дасюлешняй нявыразнай і нестаноўчай палітыкай у дачыненьні да Саветаў і камуністычнага Кітаю.

Гэткім голасам было выступленьне ўплывовага Амэрыканца — выдаўца й галоўнага рэдактара журналу «Ю. С. Ньюс энд Ворльд Рэпорт» Дэйвіда Лёрэнса. Ён у сваім артыкуле, зьмешчаным у нумары за 25 лютага гэтага часапісу, падаў наступны праект: На аснове самога статуту Задзіночаных Нацыяў трэба выключыць Савецкі Саюз з гэтае арганізацыі. На аснове гэтага статуту, сябрамі ЗН могуць быць дзяржавы, якія згаджаюцца ляяльна й сумленна выконваць свае сяброўскія абавязкі. Саветы-ж зігнаравалі свае абавязкі ў дачыненьні да ЗН, а, дапамагаючы чырвонаму Кітаю й Паўночнай Карэі, страцілі сваё месца ў ЗН. Фармальна ЗН павінны абвесьціць гэтае месца, якое займае Савецкі Саюз, вольным. У лютым 1951 году ЗН абвесьцілі чырвоны Кітай агрэсарам, якому Саветы памагаюць у ягонай агрэсіі і да сяньня. Таму, на думку Лёрэнса, існуе поўнасьцю выстарчаючая прычына, каб выключыць Савецкі Саюз з ЗН і то на падставе статуту ЗН.

У далейшым Лёрэнс разважае, як гэтае выключэньне правесьці практычна, бо, як ведама, Саветы зьяўляюцца сябрам-закладчыкам ЗН і маюць права вэта ў Радзе Бясьпечнасьці. Але 6-ы параграф статуту ЗН гаворыць, што сябра ЗН, які сыстэматычна парушае параграфы статуту, мае быць выключаны Генэральнай Асамблеяй ЗН на прапазыцыю Рады Бясьпечнасьці. Так як Саветы зьяўляюцца сябрам Рады Бясьпечнасьці і карыстаюцца правам вэта, Лёрэнс паклікаецца на 27 параграф статуту ЗН, у якім гаворыцца, што дзяржава-сябра ЗН, справа якой вырашаецца на Радзе Бясьпечнасьці, павінна ў такім выпадку паўстрымацца ад голасу, г. зн. і ад голасу супраць або вэта.

Такім чынам справа выключэньня Саветаў з ЗН павінна быць, на думку Лёрэнса, зусім законна пастаўленая на парадку дня і таксама законна Саветы павінны быць выключаныя з ЗН.

Другім цікавым сымптомам у гэтай галіне зьяўляецца «Праграма нашых вонкавых дачыненьняў», апублікаваная 28 лютага і падпісаная ўплывовымі амэрыканскімі грамадзянамі, зьвязанымі з рэспубліканскай партыяй. З пасярод асноўных чатырох пунктаў гэтай праграмы два наступныя **зьяўляюцца асабліва вымоўнымі:**

1. Безаглядная нішчэньне камуністычнай змовы ўнутры Задзіночаных Штатаў.

2. Спыненьне дыпляматычных дачыненьняў з СССР і ягонымі сатэлітамі, эканамічнае аслабленьне гэтага камуністычнага блёку, падтрыманьне рухаў супраціву ўнутры СССР і антысавецкіх угрупаваньняў на гэты бок зялезнай заслоны і выключэньне камуністычных дзяржаваў з Задзіночаных Нацыяў.

Бачым тады, што шырокія колы амэрыканскае грамадзкасьці прабуюць шукаць выхадаў з заіснаваўшага палажэньня, уважаючы за неабходную больш станоўчую й няпрымірлівую пазыцыю ў змаганьні з камунізмам. Усе гэтыя і ім падобныя сымптомы пераканальна сьветчаць аб тым, што афіцыяльна абавязваючая палітыка коэгзыстэнцыі ў вачох амэрыканскага грамадзянства сябе не апраўдала і страціла ўсякую вартасьць. Гэтае грамадзянства пільна шукае новых спосабаў і новых мэтадаў у змаганьні з камунізмам, якія маглі-б даць рэальныя вынікі й запэўніць бясьпечнасьць Амэрыкі, а не хвальшывае ўяўленьне гэтай бясьпечнасьці.

**мрт**

### АД РЭДАКЦЫІ

**Наступны 15—16 вялікодны нумар «Бацькаўшчыны» выйдзе падвойным.**

# Новае аружжа масавага зьнішчэньня

У панядзелак 7 сакавіка сёлета адбылося выпрабаваньне на палігоне ў пустыні штату Нэвада новай амэрыканскай бомбы масавага зьнішчэньня. Газэта «Вашынгтон Пост» назвала гэты пробны выбух «найсільнейшай эксплёзіяй у гісторыі атамных досьледаў і паведаміла, што новая бомба зьяўляецца шмат сільнейшая за вадародную бомбу. Яна выклікае ня толькі шмат большае зьнішчэньне, чымся вадародная бомба, але зьяўляецца й шмат танейшая ў сваей прадукцыі. Бляск выбуху, які наступіў хутка перад сьвітаньнем, быў відаць у Канадзе ў вадлегласьці 1 500 кілямэтраў ад палігону ў Нэвадзе. Гэты бляск рабіў уражаньне передчаснага ўсходу сонца.

«Вашынгтон Пост» высказвае прыпушчэньне, што новы тып бомбы зьяўляецца замкнутым у ядры з урану. Ужыцьцё таннага урану, запасы якога на зямлі зьяўляюцца практычна неабмежаваныя, адкрываюць перад гэтым новым аружжам зьнішчэньня такія магчымасьці, якія цяжка сабе выабразіць.

Уран выступае ў прыродзе найчасьцей у форме, абазначанай у навуцы ураням 238. У спалучэньні з гэтай формай выступае таксама ў прыродзе іншы род урану, абазначаны ураням 235. Гэты другі род урану ўжываецца ў атамнай і вадароднай бомбе. Пасьля перапрацоўкі уранавай руды атрымліваецца прадукт, які зьмяшчае 99,3% урану 238 і толькі 0,7% урану 235. Таму прадукцыя урану 235 зьяўляецца вельмі цяжкая й дарагая. Вадародная бомба складаецца з урану 235, які служыць запальнікам, і двух прэпаратаў вадароду г. зв. «цяжкой вады» («падвойнага вадароду») і трытыя («патройнага вадароду»).

Новы амэрыканскі вынаход праўдападобна зьяўляецца сканструаваны так, што вадародная бомба зьяўляецца замкнутай у ядры із звычайнага урану 238. Зьнішчальная сіла такой бомбы вадародна-уранавай ёсьць 20 000 разоў большая чымся вадароднай бомбы.

У сувязі з рэвэляцыямі аб новай бомбе можна прыпомніць прамову Чэрчыля ў Ніжняй Палаце, сказаную 1 сакавіка, аб зьнішчальнай сіле вадароднай бомбы. Чэрчыль асьветчыў, што апошнія вынаходы расшыраюць прастор сьмяротнага дзеяньня новых бомбаў амаль што бязьмежна. У сувязі з гэтым, зазначыў Чэрчыль, вялікія і рэдка заселеныя прасторы Савецкага Саюзу зьяўляюцца таксама наражаныя на небясьпеку, як і густа заселены малы востраў, якім ёсьць Вялікабрытанія.

# Міжкантынэнтальнае стрыльно

Добра паінфармаваны ведамы амэрыканскі журналісты Эльзоп цьвердзіць, што да 1960 году ў Амэрыцы можа быць збудаванае міжкантынэнтальнае стрыльно, якое будзе мець шыбкасьць 20 разоў большую за шыбкасьць голасу. Праца над гэтым аружжам, якое атрымала назву «Атляс», вядзецца на заходнім узьбярэжжы Задзіночаных Штатаў і ўжо выйшла із стадыі плянаваньня. Гэта мае быць міжкантынэнтальнае стрыльно, якое ў сваім палёце можа дасягнуць фантастычную вышыню 600 міляў над зямлёй. Гэта ня ёсьць кіраванае стрыльно, але скарэй стрыльно артылерыйскае.

З вадародным набоям «Атляс» можа быць узапраўды дэцыдуючым аружжам. Абарона перад ім немагчымая. Гэта будзе ракета вагою 15 тонаў або й болей. Дзьве галоўныя тэхнічныя цяжкасьці ў сувязі з ужыцьцём гэтага аружжа ўжо разьвязаныя. Адно — гэта зрэдукаваньне цяжару ракеты так, каб павялічыць яе засяг і меткасьць. Другое пытаньне датычыць г. зв. «павароту» ў атмасфэру. Стрыльно, пакідаючы міжплянэтарны прастор і вяртаючыся да атмасфэры, у выніку церця мусіць разагрэцца так, як мэтэор, пакуль дасягне зямлі. Гэтая праблема таксама мае быць на дарозе да разьвязаньня.

На думку Эльзопа, будучыня Амэрыкі можа залежыць ад таго, ці «Атляс» будзе гатовы раней, чымся савецкі адменьнік такога аружжа. Тымчасам ужо цяпер амэрыканскае лётніцтва паведаміла аб падробнасьцях іншага кіраванага стрыльна «Фалькон» (Сакол), якое абазначаецца як адзінае стрыльно, выстрэльванае з самалёту да самалёту «з собскім мазгом». Вайсковыя колы высьняюць, што гэтае стрыльно мае форму ракеты даўжынёю 6 стопаў і аблічанае на вышукваньне і нішчэньне варожых бамбавікоў.

Стрыльно гэтае, уважанае за першую лінію абароны перад лётніцкай атакай, знаходзіцца ўжо ў прадукцыі і хутка будзе дастаўленае зьнішчальніцкім дывізіёнам, якія стацыянуюць у палярным раёне і ў іншых мясцовасьцях паўночна-амэрыканскага кантынэнту. Рэпартэрам былі паказаныя фільмы, у якіх бамбардавальнік бязь лётніка надарма прабаваў уцячы перад стрыльном, якое зьмяняла свой курс у залежнасьці ад курсу бамбавіка і напасьледак трафіла ў яго. Гэтае стрыльно мае засяг ад 3 да 5 міляў.

Праблема абароны перад вадароднай і атамнай бомбай ёсьць цяпер прадметам ажыўленай дыскусіі ў Задзіночаных Штатах. Аднак яна не абыймае пытаньня міжкантынэнтальнага стрыльна. Шэф цывільнае абароны ЗША Пэтэрсон нядаўна асьветчыў, што ягоныя намаганьні абыймаюць усё тое, што можна зрабіць «да нешчасьлівага дня, калі будуць уведзеныя міжкантынэнтальныя кіраваныя стрыльны». Калі гэтыя стрыльны, могучыя пераляцець цераз акіяны на працягу некалькі мінутаў, будуць гатовыя, «астанецца ўжо нам толькі маліцца. Фактычна найлепей зробім, калі будзем маліцца ўжо цяпер» — сказаў Пэтэрсон.

Губэрнатары Нью Ёрку, Нью Джэрсі і Канэктыкат нядаўна мелі нараду з бурмістрам Нью Ёрку ў справе плянаў эвакуацыі гораду ў выпадку вадароднай атакі і загарантаваньня ахароны насельніцтва Нью Ёрку й аколіцаў, якое налічвае звыш 12 мільёнаў, перад радыяактыўным пылам. Яны разгледзілі рапарт спэцыяльнага ньюёркскага камітэту, які радзіць эвакуацыю ў дзьвюх фазах на выпадак павялічэньня міжнароднага напружаньня. Жанчыны, дзеці й інваліды былі-б эвакуаваныя на некалькі дзён ці тыдняў перад спадзяванай атакай. Рэшта насельніцтва была-б эвакуаваная ў выпадку непасрэднага загрожаньня атакі.

Эвакуацыя Мангатану, цэнтральнай часткі Нью Ёрку, уважаецца за немагчымую пры алярме на гадзіну перад атакай. Але новая сыстэма алярмаваньня можа забясьпечыць паведамленьне аб атацы на 2 да 6 гадзін перад ёю. Аблічана, што пры помачы чыгункі, мэтро і паромаў можна будзе эвакуаваць на працягу аднэй гадзіны мільён людзей з найбольш загрожаных частак гораду. 4 мільёны людзей мусілі-б эвакуавацца самаходамі, аўтабусамі і аўтамабілямі. Але выходныя артэрыі зь Нью Ёрку могуць прапусьціць толькі мільён чалавек на працягу аднае гадзіны. Іншы горад, Лёс Энджэлес, што налічвае 5 мільёнаў насельніцтва, адкінуў усякія пляны эвакуацыі. Улады гэтага гораду, у якім знаходзіцца столькі-ж самаходаў, колькі й жыхароў, уважаюць, што такая шыбкая эвакуацыя прывяла-б да масавай панікі.

# Спадчына Янкі Купалы у савецкім выданьні

Прачытаўшы артыкул «Вялікая спадчына» Ул. Юрэвіча ў літаратурна-мастацкім і грамадзка-палітычным часапісе «Беларусь» за студзень 1955 г. (№ 1 [126]) ды прыгледзіўшыся зьмешчанай у ім фатаграфіі шасьці томаў твораў спадчыны аднаго з найвялікшых сыноў нашае Бацькаўшчыны — Янкі Купалы, здавалася-б, нельга было-б ня ўсьцешыцца, што напасьледак... паняволеныя ягоныя нашчадкі ў цяперашняй акупаванай Беларусі будуць мець магчымасьць беспасярэдна пазнаёміцца з усёй багатай і шматграннай творчасьцю паэты.

Адылі, як фата моргана ёсьць толькі зманным уяўленьнем для падарожнікаў у пустыні, так і наіўна-сьмешнай аказваецца перадчасная радасьць пасьля прачытаньня вышэй успомненага артыкулу Ул. Юрэвіча. Сучасны беларускі савецкі крытык Я. Казека ў сваім артыкуле «Няўмірушчая спадчына», надрукаваным у менскай газэце «Літаратура і Мастацтва» (№ 2 [1017]) за бягучы год піша: «Шчыра кажучы, большыя надзеі ўскладаліся і на збор твораў Янкі Купалы. Апрача публіцыстыкі (якую памінулі выдаўцы — М. В.), сюды **ня трапіў рад вершаў** (падчыркнена намі — М. В.) дарэвалюцыйнага й савецкага часу, пры чым шырака ведамых з ранейшых зборнікаў, аднатомнікаў і анталёгіяў».

Якія-ж вершы ня трапілі ў сучаснае шасьцітомнае выданьне твораў Янкі Купалы?

Гэты-ж самы крытык, поўны абурэньня, далей піша: «Незразумела чаму, напрыклад, у зборы няма вершаў «Перад вісельняй», «Ворагам беларушчыны», «Паяжджане» і некаторых іншых. Вершы гэтыя даўно сталі хрыстаматыйнымі, уключаліся аўтарам у прыжыцьцёвыя выданьні, друкаваліся і пасьля ягонай сьмерці. Іх мы знаходзім у сэрыі лепшых твораў беларускае літаратуры...»

«Верш „Дзесяць асінавых кольляў” зьмешчаны ў ваднатомніку Я. Купалы на ўкраінскай мове, але адсутнічае ў разгляданым зборы твораў». У далейшым аўтар паясьняе, што: «У вядомым вершы «Перад вісельняй» Янка Купала гнеўна, рашуча пратэставаў супраць крывавай расправы, якую ў часе рэакцыі царскія сатрапы чынілі над народам, над удзельнікамі рэвалюцыйных баёў 1905 году, заклікаў народ на барацьбу. Вуснамі змагара, які йдзе на вісельню, паэта выказваў глыбокую веру ў перамогу народу:

> Яшчэ прыбавіце скананьне —
> Прадсьмертны вашых рук абраз, —
> Ня доўга-ж ваша панаваньне —
> Загуба прыдзе і на вас!
> Загубу крыўдаю, сьлязамі
> Ў магільны выкапалі ніз;
> Людзкой расплаты ўжо над вамі
> Тапор адточаны завіс».

Хоць крытык і паказвае ды тлумачыць, што гэты верш быў накіраваны супраць «рэакцыі царскіх сатрапаў», аднак у акупантаў ён родзіць сяньня хіба-ж іншыя асацыяцыі. Яны, глянуўшы на шлях выбудаваных імі вісельняў і тысячы пасланых на іх **імі-ж** вісельнікаў, інтымна адчулі сваёй подлай душой, што гэтыя радкі ў такой-жа самай меры могуць адносіцца й да іх! Ды ведаючы, што творчасьць Янкі Купалы не зьяўляецца творчасьцю дня, але шляхапаказьнікам сяньняшніх і будучых гадоў няўтомнаму ў сваім змаганьні беларускаму народу, перапалохаліся «адточанага тапара» ды выкінулі із зборніка кроўю і помстай набраклыя вершы.

Паясьняючы выкінуты із зборніка верш «Ворагам беларушчыны», аўтар піша: «У зборніку матарыялаў літаратурнага музэю Янкі Купалы, выпушчаным выдавецтвам Акадэміі Навук БССР у 1952 годзе, зьмешчаны артыкул Ул. Луцэвічыхі (жонкі Купалы — М. Б.), у якім растлумачваюцца прычыны, што абумовілі зьяўленьне ўспомненага верша. Ул Луцэвічыха піша, што польскі пан Зэнон Пяткевіч у вадным із сваіх «крытычных» артыкулаў імкнуўся давесьці, быццам няма ні беларускай літаратуры, ні мовы і што Я. Купала «выдумляе нейкую штучную мову і нікому непатрэбную літаратуру». Падобныя артыкулы зьмяшчаліся і ў газэце «Кур'ер Віленскі», рэдактарам якой быў польскі шавіністы Ян Обст».

Такое паясьненьне савецкага крытыка больш чым наіўнае, бо сяньня кажнаму ведама, што паміж панам Зэнонам Пяткевічам і таварышам Нікалаем Патолічавам у дачыненьні да беларускай культуры **няма ніякай розьніцы!** Пан Зэнон Пяткевіч сваімі выступленьнямі рыхтаваў грунт да зьнішчэньня, таварыш Нікалай Патолічаў, стаўшыся неадменным губэрнатарам сучаснай Беларусі і зразумеўшы магутныя словы паэты, сьціраваныя супраць яго самога, пастанавіў іх зьнішчыць».

Канчаючы свой поўны абурэньня і наіўнасьці артыкул аўтар піша: **«Імкненьне «адрэдагаваць» тэксты Я. Купалы нічога агульнага ня мае з прынцыпамі выданьня літаратурнай спадчыны. Унесьці зьмены ў тэкст твораў мог толькі сам паэта. Такое-ж абыходжаньне зь літаратурнай спадчынай зьяўляецца нясьцерпным. Нам дарагі кажны Купалаўскі радок, і мы абавязаны клапаціцца аб тым, каб сабраць усю бесьсьмяротную спыдчыну вялікага песьняра, а не растрасаць яе...»** (падчыркнута намі — М. В.).

Гэтулькі сказаў адважны сучасны беларускі літаратурны крытык Я. Казека. А што на гэта скажа **расейскі палітрук,** адумыслова прыстаўлены да беларускай літаратуры, таварыш Мозалькоў?!

Мы-ж заяўляем, што выкінуўшы столькі сказаў з твораў Леніна, іх можна будзе прымяркаваць да казак «Тысячы і аднае ночы»... Тады Ленін перастаў-бы быць Ленінам, як і бальшавікі жадаюць, каб Янка Купала перастаў быць Купалам! Але дарэмна! Адказваючы словамі Купалы,

> Людзкой расплаты ўжо над вамі
> Тапор адточаны завіс.

**Мікола Вярба**

*

**Ад Рэдакцыі:** У вышэй зьмешчаным артыкуле мова толькі аб тых творах Купалы, якія, будучы друкаванымі й перадрукоўванымі яшчэ нядаўна, цяпер не ўвайшлі ў шасьцітомны «поўны» збор твораў нашага паэты. Але трэба прыпомніць, што вялікая колькасьць лепшых Купалавых твораў яшчэ за жыцьця паэты былі выкінутыя бальшавіцкай цэнзурай зь ягонай літаратурнай спадчыны, пра якія сяньня забаронена навет і ўспамінаць ні добрым, ні благім словам. Да такіх ягоных твораў належаць, між іншымі, пэрлы ягонае творчасьці, як драма «Тутэйшыя», вершы «Перад будучыняй», «Паўстань з народу нашага, Прарок», «Царскія дары» і шмат, шмат іншых.

# Няўдалая аналёгія

**(Заканчэньне зь 1-ай балоны)**

вецкія-ж рэспублікі зьяўляюцца адзінкамі, у васнове якіх ёсьць адна нацыянальнасьць. Няважна ў гэтым выпадку, хто зьяўляецца больш незалежным ад цэнтру: амэрыканскі штат ці савецкая нацыянальная рэспубліка. Але затое важна, што ў адрозьненьне ад Амэрыкі, тут у йгру ўваходзіць фактар дамінацыі расейскай нацыі, ейны ціск і імкненьне да русыфікаваньня іншых народаў ды распачлівае імкненьне гэтых народаў да самазахаваньня, што ў сваю чаргу ня можа ня ставіць на парадак дня нацыянальных праблемаў, якія зусім ня існуюць у ўмовах амэрыканскае рэчаіснасьці.

На падставе вышэйсказанага мы бачым, што пакліканьне на ўспомненыя «аналёгіі» між ЗША і СССР ня вытрымоўвае ніякае крытыкі ды разьлічанае толькі на тое, каб і далей хвальшаваць рэчаіснасьць у вачох тых, якія наагул слаба паінфармаваныя аб запраўдным стане нацыянальнага пытаньня расейскае імпэрыі.

Калі-ж адпадае сама няўдалая аналёгія, дык, зразумелая рэч, мусяць адпасьці, як няважныя, і тыя вывады, якія Расейцы робяць з гэтакай аналёгіі. Гэта значыць, што відавочная немагчымасьць і абсурд разьдзелу Амэрыкі на паасобныя незалежныя дзяржаўныя арганізмы ня мае нічога супольнага з такой эвэнтуальнасьцяй у вадносінах да расейскай імпэрыі.

Расейцы-ж у гэткім выпадку, заместа задаваць пытаньне — «чым мы горшыя?», павінны былі-б папытацца саміх сябе: «Чым мы лепшыя, што мы хочам сабе падпарадкаваць іншых?» Бо фактычна-ж ніхто ня мае навет думкі пасягаць на расейскія этнаграфічныя землі. Ніхто ня мае найменшага намеру дзяліць Расею, а калі гаворыцца аб разьдзеле імпэрыі, дык маецца толькі на ўвазе прывярненьне свабоды народам паняволеным гэтай імпэрыяй. Права-ж народаў на свабоду й незалежнасьць зьяўляецца ня толькі натуральным правам, яно што раз больш становіцца аб'ектам міжнароднага права. А дзеля таго адмаўляньне яго паасобным народам уводзіць дыскрымінацыю, якая заўсёды была крыніцай антаганізмаў, непакояў, канфліктаў.

**А. Галубіцкі**

**ЮРКА ВІЦЬБІЧ**

# Плыве з-пад Сьвятое гары Неман

**(Працяг)**

Ніжэй на Сожы, паблізу ад вусьця маляўнічае Бесядзі, знаходзіцца горад Ветка. Няма ў нашай мове слова — ветка, але расейскія эмігранты, заснаваўшы ў другой палове 17 стаг. горад Ветку, мелі на ўвазе выспу Вятох, на якой і каля якое ён узьнікнуў. Нашая Бацькаўшчына здаўна зьяўлялася прытулішчам для ўцякачоў з Усходу і невядома выпадкаў, каб яна іх выдавала. Пад ейную ахову бяжалі з Залатое Арды тамашнія апазыцыянэры, для якіх характэрныя Мэнглі-Гірэі, што пазьней сталіся крымскімі ханамі. Сюды-ж уцякалі, ратуючыся ад маскоўскага дэспатызму, баяры, для якіх паказальны князь Курбскі. Калі пурытаны, квакеры, гугеноты бяжалі ад рэлігійных перасьледваньняў у Амэрыку, дык у Літву бяжалі ад вогнішчаў маскоўскае інквізыцыі стараверы, заснаваўшы Ветку. І памыляецца той, хто думае, што вынаходнікам прымусовае дэпартацыі ўцекачоў зьяўляецца расейскі бальшавізм, яшчэ за часы царыцы Анны Іванаўны ў 1735 г. расейскі царызм гвалтам дэпартаваў зь Веткі і ейнае ваколічнасьці 40 тыс. старавераў, пазьней у 1764 г. Кацярына Другая загадала генэралу Маслову дэпартаваць адсюль яшчэ 20 тыс. старавераў. Аднак і ў першы і ў другі раз маскалі-стараверы вярнуліся назад у тую краіну, што сталася для іх маткай, а ня мачыхай.

Спакідаючы ў сувязі з водным паходжаньнем геаграфічных назоваў басэйн Дняпра і пераходзячы да басэйну Нёману, трэба адразу-ж зазначыць, што сам Нёман, ня гледзячы на тое, што зьяўляецца сымбалям нашага нацыянальнага адраджэньня, не адбіўся значна на геаграфічных назовах. У ўсякім разе назовы, што ад яго паходзяць, ня перавышаюць чалавецкі век, як мэтэаралёгічная станцыя Наднёман каля мястэчка Пясочны, гута і пасёлак Нёман у той-жа ваколічнасьці, станцыя і пасёлак Нёман, дзе чыгунка крыжуецца з ракой. Вось бадай і ўсё. Таму ў гэтым сэньсе нас больш цікавіць маленькае, але старадаўняе мястэчка Вузда, што займела свой назоў ад рэчкі Вузьдзянкі, якая праз Вусу спалучаецца зь Нёманам. Амінаючы старасьвеччыну, хочацца прыгадаць, што паблізу ад Вузды ў вёсцы Нізок нарадзіўся ў 1904 г. у беднай сялянскай хаціне выдатны паэта Паўлюк Трус. Нарадзіўся, каб праз 25 год памерці ад тыфусу самотным у калідоры савецкае бальніцы, але спакінуўшы шмат выдатных твораў, паміж якімі, як Сымбаль Веры, гучаць радкі:

> І пайшоў я ў сьвет
> У вагняцьветны прасьцяг
> У залатыя прасторы прадвесьня,
> Каб душою гарэць,
> Ў бурным моры жыцьця
> Беларусі дарыць свае песьні.

Там, дзе паціху цячэ Міранка, каб спалучыцца ніжэй з ракой Вушай, прытокам Нёмана, узвышаецца напоўразбураны велічны замак, а вакол яго горад Мір. Паводля народнага паданьня, назоў гораду паходзіць ад мірнае ўмовы, якая кімсьці і калісьці тут складалася, але гісторыі гэтая ўмова невядомая і застаецца толькі геаграфія — назоў гораду паходзіць ад назову ягонае рэчкі. Мір здаўна аблюбавалі магнаты і ў 16 стаг. Юры Ільлініч пабудаваў тут замак у гатычным стылі з 5 вежамі. Ад гэтага замку, што пасьля зьмяніў шмат гаспадароў, паўстаў род князёў Мірскіх. Калі князі Мірскія перавяліся, дык паводля каралеўскага прывілею іхняе імя, як дадатак атрымала адна галіна князёў Сьвятаполкаў, а другая іх галіна з тае-ж прычыны сталася Сьвятаполк-Чацьвяртынскімі. Пазьней магнатаў тут зьмянілі Цыганы і Жыды. Цыганы час ад часу абіралі тут свайго караля на ўсю Літву і Польшчу, зь якіх апошні памёр у 1790 г. Аб тутэйшых Цыганох-рамесьніках нагадвае нашая пашыраная прыказка:

> Майстар зь Міру, што цяў, то дзіра.

Аб Жыдох гандлярох склалася прыказка на жыдоўскай мове:

> Калі дзяўчына едзе ў Мір, дык гэта
> значыцца неўзабаве вясельле.

1, 2, 3 і 4 красавіка 1919 г. тут паміж замкам і Міранкай адбылася зацятая бітва Слуцкага Зьяднанага Батальёну з 3-м Менскім палком Губчака. І гэтае паўстаньне, да якога далучыліся жыхары Міру, зьяўляецца папярэднікам Слуцкага паўстаньня.

На Баранавіччыне, на рэчцы Мышанцы, што ўцякае ў раку Шчару, левы прыток Нёману, ляжыць маленькае мястэчка Новая Мыш. І хаця Баранавічы на працягу двух пакаленьняў сталіся вялікім горадам, яны зь гістарычнага пункту гледжаньня нагадываюць хлапчука ў параўнаньні зь дзядоўскім векам Новае Мышы, што знаходзіцца ад іх на адлегласьці пяці кілямэтраў. Дарма што з прычыны войнаў не захаваўся тут навет сьлед ад Хадкевіцкага замку, але затое зь гісторыі ведама, што славуты беларускі род Хадкевічаў інакш ня менаваўся, як «графы на Мышы». І таму калі трапляеш у Новую Мыш, дык прыгадваюцца словы славутага гэтмана з прадмовы да выдадзенага ім, хай сабе і ня тут, Эвангельля:

> «Памысьліў быў есьмі, іжа бы сію кнігу, выразумленьня радзі простых людзей, пералажыці на простую молву».

Адна з найпрыгажэйшых нашых рэкаў Вяльля. Кажны па свойму, але з аднолькавай цяплынёй падыйшлі да яе два ўзвышэнцы. Паводля Максіма Лужаніна:

> Галасьней,
> Жаласьней,
> Паплылі,
> Загулі,
> Заігралі
> Пакручастай Вяльлі
> Выгінастыя хвалі.

Паводля Уладзімера Жылкі:

> Завулкаў сон і ціш кляшторная
> Вяльлі празрыстай глыбіня.

І калі сама красуня Вяльля знайшла значны адбітак у паданьнях і мастацкай літаратуры трох народаў — беларускага,

# Яшчэ аб радые „Вызваленьне“

**ВЕЛЬМІ ПАВАЖАНЫ СПАДАРУ РЭДАКТАР!**

Не адмоўце зьмясьціць у вашай паважанай газэце «Бацькаўшчына» наступнага:

У нумары 7 (237) «Бацькаўшчыны» з дня 13-га лютага 1955 г. быў зьмешчаны артыкул «Гаворыць Радыё „Вызваленьне"», аўтар якога інфармуе аб працы Беларускага Аддзелу радыя «Вызваленьне». Хоць аўтар артыкулу, відаць, і залічае сябе да «вузкага кола блізкіх і далёкіх супрацоўнікаў» гэтага аддзелу, як ён кажа — мусім сьцьвердзіць аднак, што Кіраўніцтва Беларускага Аддзелу ня мае нічога супольнага зь ягонымі інфармацыямі. Якраз дзеля гэтага мо' інфармацыі гэтыя аказаліся вельмі некамплетнымі, а навет у некаторых выпадках разьбежнымі з праўдай. Факт гэты і змусіў нас забраць голас на гэтых шпальтах у імя праўды й аб'ектыўнасьці.

Паважаны аўтар — Ул. Немановіч пералічае між іншым такія недахопы ў працы нацыянальных рэдакцыяў: 1) адсутнасьць сыстэматычнага інфармаваньня сваіх суродзічаў на эміграцыі, 2) абмежаваны засяг перадачаў, за аснову якіх бярэцца толькі БССР і 3) тое, што беларускія праграмы трываюць 15 часін ды паўтараюцца **12 разоў на пару.** (Падкрэсьленьне наша).

Перш за ўсё паправім рэчовыя памылкі. Вось-жа беларускія перадачы паўтараюцца не 12 разоў на пару, як кажа аўтар, **а 24 разы,** бо ідуць па 2 разы запар праз кажныя паўтары гадзіны; засяг перадачаў ахоплівае ня толькі БССР, але й Вільню (навет Коўна) і Смаленск. Тэарэтычна ён мусіць ахапіць і ўсходнюю Польшчу.

Цяпер пераходзім да самых недахопаў. Гэта праўда, што недахопы існуюць, але вельмі дзіўна, чаму гэтыя недахопы сп. Ул. Немановіч адносіць да працы нацыянальных рэдакцыяў. Павялічэньне часу нашых перадачаў, як і пашырэньне засягу іх залежыць не ад Беларускай Рэдакцыі, але ад Амэрыканскага Камітэту. Заданьнем-жа рэдакцыяў ёсьць сыстэматычнае апрацоўваньне ды перадаваньне на этэр штодзённых праграмаў. З гэтым заданьнем яны, ня гледзячы на сьціплы пэрсанальны склад, упраўляюцца добра. Праўда, наша рэдакцыя, таксама як і іншыя, змагаюцца і за ўладжаньне ўсяго таго, што паваж. аўтар называе «недахопамі». Але змаганьне за гэтыя ўладжаньні належыць таксама і да тых нацыянальных арганізацыяў, якія ў паразуменьні і супрацоўніцтве з Амэрыканскім Камітэтам спрычыніліся да паўстаньня нацыянальных Сэкцыяў Радыя «Вызваленьня» і якія, паколькі нам ведама, робяць адпаведныя захады дзеля правядзеньня ўспомненых уладжаньняў.

Што да палітычных абмежаваньняў, дык, праўда, ёсьць і такія. З гэтым лічыліся беларускія палітычныя дзейнікі, як і такія-ж дзейнікі іншых народаў, не ўважалі, аднак, гэтых абмежаваньняў за нешта такое, чаго нельга было-б паправіць у будучыні. Зьмена гэтых абмежаваньняў у сучасны мамэнт зусім не залежыць ад Кіраўніцтва Беларускай Сэкцыі Радыя «Вызваленьне», але ад далейшага разьвіцьця сытуацыі і вынікаў перагавораў нашых палітычных ворганаў з Амэрыканскім Камітэтам. Але і ў дадзеных абставінах кажны аб'ектыўны чалавек ня можа запярэчваць усіх тых пазытыўных мамэнтаў, якія пераважаюць над усімі недахопамі й абмежаваньнямі. Гэтак, усё-ж можна выпаўніць нацыянальна-патрыятычным зьместам нашы праграмы. У зьмесьце іх можна спаткаць моцныя ў сэньсе нацыянальным месцы, як, напрыклад, дэклямацыі вершаў нашых паэтаў, асабліва-ж Купалавых — такіх, як «На сход», або «Паўстань з народу нашага, прарок», або выкананьне беларускіх нацыянальных песьняў.

Ня можам ня ўспомніць і аб яшчэ аднэй рэчы. Пры канцы сваёй інфармацыі сп. Ўл. Немановіч кажа так: «Вось чаму на платных пазыцыях павінны стаяць людзі, для якіх плата гэта толькі сродак да праводжаньня нацыянальнае дзейнасьці, а ня ўладжаньне асабістае будучыні». — У чый гарод гэты камень? Ніхто з нашых супрацоўнікаў ня прыйшоў працаваць у Беларускай Сэкцыі толькі дзеля заработку. Праца тут цяжкая, адказная і не асабліва спакойная.

Прымеце, Сп. Рэдактару, азнакі ўдзячнасьці й глыбокай пашаны.

**Кіраўніцтва Беларускай Сэкцыі Радыя «Вызваленьне»**

# Захоўвайма хорму сваіх назоваў!

Няма што й казаць, што, калі мы пішам пабеларуску, то мусім захоўваць хорму беларускіх геаграфічных і асабовых назоваў. Прадстаўнікі іншых народаў, калі пішуць і чужой мовай, таксама захоўваюць собскую хорму сваіх асабовых назоваў і назоваў мясцовасьцяў свайго краю. Гэтак-жа, хоць недакладна й нясыстэматычна, робяць і Беларусы, калі пішуць неславянскай моваю. Тут адно хачу зацеміць агульна, што пішучы чужой неславянскай моваю, трэба беларускія назовы пісаць так, як мы іх пішам пабеларуску лацініцаю*). Але ведама, трэба ўмець пабеларуску пісаць лацініцаю. Хто гэтага ня ўмее, той напіша сваё прозьвішча **Ragacz, Ganczaronak** замест **Rahač, Hančaronak.**

Але тыя-ж Беларусы, калі пішаць якой славянскай моваю (звычайна расейскай альбо польскай), дык свае назовы звычайна абазначаюць пачужому. Аўтар гэтых радкоў ня лепшы за іншых. Але нядаўна мне давялося шмат пісаць расейскай моваю пра Беларусь і ейную гісторыю, і я пераканаўся, што й пішучы расейскай, а значыцца й іншай моваю славянскай, трэба беларускія собскія назовы пісаць пабеларуску. Гэтак робячы, мы не заціраем моўнае індывідуальнасьці свайго народу і свайго краю; шануем нашую нацыянальную апрычонасьць і прывучаем шанаваць яе іншых.

Пры пісаньню якой славянскай моваю прынцып застаецца той самы дзеля абазначэньня беларускіх собскіх назоваў, што й пры пісаньню моваю неславянскай. Калі ў якой славянскай мове ўжываецца лацініца, беларускія собскія назовы маем перадаваць у ёй пабеларуску лацініцаю, калі ў іншай славянскай мове ўжываецца абэцэда кірылічная — беларускія собскія назовы абазначаем у ёй пабеларуску кірыліцаю. Прыкладам будзе гэтак: **Менск, Полацак, Слуцак, Чарнобыль, Бярэзина, Горадзень, Дзядзькавичы, Дзьвина, Вицебск, Княжыцы, Барысэвич** (прозьвішча), **Бранск, Шэрахава, Парэчча, Палесьсе, Вугра; Miensk, Połacak, Biarezina, Horadzień, Vuhra** і г. д.

Хоць у польскай мове няма гуку **г** (= лац. **h**), але для гуку **г** чужых словаў там ёсьць літара **h**; дзеля таго, пішучы папольску, нашае **г** трэба абазначаць літараю **h (Noŭharad Sievierski).** Расейцы, дый іншыя ў расейскім тэксьце, нашае **г**, каторае вымаўляецца як лац. **h**, вымавяць як лац. **g**, але тут нічога ня зробіш, бо ў расейскай мове няма літары для гуку **h** і ў нас нямаш такой літары, якую Расейцы вымаўлялі-б як **h.** У польскай абэцэдзе няма літараў **č, š, ž,** дзеля таго, пішучы папольску, давядзецца ў нашых назовах ужываць польскіх **cz, sz, ż (Smolicz, Pareczcza, Szyła, Kniażycy).**

У расейскай абэцэдзе няма цяперака літары **і**, дык давядзецца пісаць **и (Вильня).** Ад такіх прытарнаваньняў хормы й вымова нашых геаграфічных і асабовых назоваў ня зьменяцца. У расейскай і польскай мовах няма гуку й літары **ў**; дык узьнімаецца пытаньне, як перадаваць у гэтых мовах нашае **ў**, ці кірылічным **у (Ваукавыск, Імсьціслау),** лацінскім **u (Vaukavysk, Imścisłau),** ці кірылічным **в (Вавкавыск, Имсьцислав),** лац. **v (Vavkavysk, Imścisłav)?** Абазначаньне кір. **у**, лац. **u** бліжэй да вымовы, а некаторыя й сусім яго вымаўлялі-б добра, зн. як **ў.** Лятувісы сваё **ў** (у іх яно абазначаецца лац. **u**) і ў чужых мовах абазначаюць цераз **u (Kaunas).** Пішучы ўкраінскай моваю, **ў** беларускіх собскіх назоваў трэба абазначаць літарай **в,** бо ў такіх прыпадках **в** у ўкраінскай мове вымаўляюць як беларускае **ў.** Украінскае **и** вымаўляецца найчасьцей як беларускае **ы,** а літары **ы** ў Украінцаў нямашака; дзеля таго ў украінскай мове **ы** беларускіх собскіх назоваў трэба абазначаць знакам **и (Асіпавічи).** Вымова беларускага **шч** розная ад расейскага щ: у нас **шч** — два гукі; дзеля таго, пішучы расейскаю моваю, трэба беларускія собскія назовы абазначаць літарамі **шч (Шчара).** Беларускія прозьвішчы **на -скі, цкі** трэба пісаць у расейскай мове бяз **й** на канцы **(Вярбицки, Зубоўски),** бо ў такіх прозьвішчах гэтага **й** нямашака. Таксама бяз **й** напішам прозьвішча тыпу **Сівы** (напішам **Сивы).**

Яшчэ што да назову **«Беларусь»** у расейскай мове. Дарма што мы гэтым назовам ня можам пахваліцца, але пакуль і паколькі яго ўжываем, маем і ў расейскай мове захоўваць ягоную беларускую хорму, зн. пісаць **«Беларусь»,** а не **«Белоруссия».** Гэтае другое хормы Расейцы ня здолелі нам накінуць, і яе ня толькі калісь, але й цяпер у нас няма. Украінцы, каб не дапусьціць да мяшаньня іх із Расейцамі, выракліся ў цяперашнім ужываньню свайго гістарычнага назову **«Русь»;** але ў дачыненьню да мінуласьці мусяць рэдчас яго ўжываць і тады ўжываюць у расейскай і іншых мовах, славянскіх і неславянскіх, у хорме **«Русь»,** а ня **«Руссия».** У нас, наадварот, даўней назову **«Беларусь»** ня было, а цяпер ёсьць. Дык пакуль ёсьць і паколькі яго ўжываем, маем ужываць у славянскіх і неславянскіх мовах у хорме **«Беларусь».** Прыкладам, хто, пішучы ангельскай моваю, ня ўжывае назову **Whiteruthenia** або **Kryvia,** каму так міла **«Русь»,** што ня мо-

**(Заканчэньне на 4-ай балоне)**

*) Адхіны ад гэтага пісаньня могуць быць вельмі рэдкія і не заўсёды канечне патрэбныя. Гэтак, прыкладам, пішучы ангельскай моваю, у каторай гук **ч** абазначаецца літарамі **ch,** валей канцавы гук нашых прозьвішчаў на **іч** (Смоліч) абазначаць літарамі **ch (Smolich),** бо ў краю з ангельскай моваю замест нашага **č** друкавалі-б **c (Smolic),** значыцца нашае прозьвішча страціла-б сваю беларускую хорму, а прыняло-б хорму польскую.

# Сумная даведка

Дэкады беларускага мастацтва й літаратуры ў Маскве належаць да найвялікшых падзеяў у культурным жыцьці беларускае савецкае рэспублікі. Важнай падзеяй была й нядаўна адбытая лютаўская дэкада. Важнай ня дзеля таго, што шмат хто зь ейных удзельнікаў вярнуўся з Масквы з ордэнам Леніна, мэдалём, новым тытулам ( як артысты СССР замест БССР) ці якой іншай адзнакай. Кажнаму ведама, што ў бальшавікоў адзнакі гэтыя маюць больш супольнага зь вернасьцяй і даверам партыі, чымся з праўдзівым свабодным мастацтвам. Аб гэтым найвыразьней сьветчыць прыклад узнагароджанага Пятруся Броўкі, які хіба-ж не за свае літаратурныя баналы атрымаў на апошняй дэкадзе ордэн Леніна.

Кажная з дэкадаў — гэта дакумэнт. Вартасьць гэтага дакумэнту ляжыць якраз у тым, што цераз крыклівую рэкляму, якой, як правіла, суправаджаюцца падобныя імпрэзы, можна што раз то выразьней разглядаць зайржавелыя ўжо ланцугі, якімі скутае беларускае нацыянальнае мастацтва ў ягоным далейшым росьце.

Сёлетняя дэкада беларускага мастацтва й літаратуры ў Маскве павінна была стацца выяўленьнем нясупыннага разьвіцьця духовых і мастацкіх вартасьцяў «ашчасьліўленага» Масквой беларускага народу. Яна павінна была падмацаваць цьверджаньні камуністычнае прапаганды аб бязьмежнай нацыянальна-творчай свабодзе ў БССР.

Аднак дэкада сталася довадам якраз адваротнага. Ня гледзячы на зусім заслужаныя пахвалы, якімі адзначылі ў Маскве выканаўцаў дэкаднага рэпэртуару, дэкада выразна паказала на творчы прыгон мастакоў і ўсяго беларускага нацыянальнага творства, пастаўленага ў служанкі маскоўскаму шавінізму.

Удалае-ж выкананьне п'есаў, песьняў ды танцаў — гэта пакульшто толькі даведка аб прыгожых галасох сьпевакоў, танцавальных здольнасьцях ды артыстычных талентах у беларускім народзе. Але-ж гэта ня сьветчыць яшчэ ніякім чынам аб духовай свабодзе, творчай незалежнасьці ды якім-небудзь поступе беларускага савецкага мастацтва. Росту гэтага мастацтва не падмацуюць сваім аўтарытэтам ні ангельскі Шэксьпір («Караль Лір»), ні паўпольскі Манюшка («Страшны двор»), ні расейскія Астроўскі («Даходнае месца») з Горкім («Барбары») ды Чайкоўскім («Яўгень Анегін»). Бо калі навет назваць гэта ростам сцэнічна-выканальных здольнасьцяў, дык гэта рост коштам чужога соку. Не аб росьце таксама сьветчаць і беларускія народныя песьні з народнымі танцамі. Гэта бо довад ня росту, а захопленага багацьця.

Аб разьвіцьці-ж беларускага савецкага мастацкага творства можна гаварыць толькі на аснове мастацкіх вартасьцяў створаных Беларусамі ў **савецкай** Беларусі. Былі на дэкадзе й гэткія. Але сьветкамі чаго зьяўляюцца яны? Так, яны сьветчаць аб талентах, расказваюць аб здольнасьцях, зьяўляюцца пераканальным довадам багатае творчае крыніцы ў беларускім народзе. Але-ж адначасна яны дыхаюць на чалавека тэй удушлівай партыйнай атмасфэрай, у якой гібее, загнанае цэнзурай, усё беларускае нацыянальнае творства. Бо хіба-ж не аб свабодзе мастацкага слова сьветчыць перакроенае цэнзурай Купалава «Раськіданае гняздо»! Хіба-ж не аб самастойным творстве кажа нам перараблянае ды так і недаробленае літаратурным рамесьнікам Броўкам з дапамогай Рамановіча лібрэта «Дзяўчыны з Палесься»! Такім-жа абвінавачаньнем творчага нявольніцтва зьяўляецца і кампазытар Цікоцкі, аўтар адзінае опэры на дэкадзе (Броўкавае «Дзяўчыны...»), муштраваны на ўсе лады партыйнымі спэцамі ад музыкі датуль, покуль не ўлажыўся ў вадведзеныя яму партыяй творчыя рамкі. Яшчэ менш аб свабодзе ды наагул аб мастацтве гавораць дэкадныя оды й дэклямацыі прысьвечваныя «радзіме» Маскве, партыі ды іншым палітычным актуальнасьцям.

Калі з цэлага дэкаднага рэпэртуару адкінуць творы аўтароў несавецкіх, як Шэксьпір, Манюшка, Чайкоўскі і іншыя, ды частку рэчаў чыста фальклёрных (выкінуўшы зь іх казённыя частушкі пра долю «шчасную-калгасную», выданыя бальшавікамі за народнае творства), дык толькі тады можна будзе пабачыць, **што** створана беларускімі савецкімі мастакамі за апошнія 15 год, **якая** мастацкая вартасьць гэтага творства ды **як** у сьвятле гэтых твораў выглядае наагул беларускае савецкае мастацтва. Мастацтва гэтае, калі яго можна назваць такім словам, зводзіцца да захвальваньня палітычнага рэжыму, да ідалапаклонства перад партыйнай дыктатурай ды сваім «старэйшым маскоўскім братам». Таму й канчальнае ўражаньне ад дэкады — «Партыі слава!» «Маскве слава!», адсьпяванае й адыгранае прывезенымі дзеля гэтага беларускімі выканаўцамі.

Ад'яжджаючы з Масквы, Броўка з новым ордэнам Леніна на грудзёх напісаў у «Літаратурнай газэце»: «Мы выяжджаем з Масквы ў добрым настроі з пачуцьцём шчырае падзякі». Так, Броўка мае за што дзякаваць... Але што-ж з мастацтвам?

Міхась Лынькоў, пачапіўшы таксама Леніна на піджак, зазначыў, між іншага, у сваіх падсумоўвальных уражаньнях адносна дэкады ў тэй-жа «Літаратурнай газэце» побач Броўкі: «Варта сказаць аб самым грунтоўным недахопе сучаснае беларускае літаратуры: недапушчальным адставаньні ад жыцьця народу». У выказваньні гэтым Лынькоў із сьвежым ордэнам думае, пэўна-ж, катэгорыямі «ордэнаноснага» літаратара. І таму паягонаму «неадставаньне» ад жыцьця народу — гэта літаратурная шуміха пра стаханаўшчыну, гэройства працы, рамантыку цаліны, хвабрычны энтузіязм і г. д. Але як-жа праўдзіва гучаць словы старога беларускага пісьменьніка ў разуменьні звычайнага чалавека, не забавязанага ордэнамі да афіцыяльнае інтэрпрэтацыі іх; словы гэтыя аб «недапушчальным адставаньні ад жыцьця народу» адносяцца, нажаль, ня толькі да літаратуры, а наагул да ўсяго беларускага савецкага мастацтва, часта антынароднага ў сваім зьмесьце, сухога й казённага, бо паняволенага партыяй і зьведзенага да шаблённага палітыканства.

Вымоўным довадам гэтага зьяўляецца беларуская дэкада ў Маскве.

**Сяргей Ясень**

---

польскага і лятувіскага, дык ахрышчаныю ёю, але параўнальна маладыя па свайму паходжаньню гарады Вялейка і Новая Вялейка не багатыя ў гэтай галіне. Толькі шматлікія заводы Новай Вялейкі прыгадваюць нам, што тут калісьці сваймі палкімі прамовамі на беларускай мове абуджала ў работнікаў нацыянальную і рэвалюцыйную сьвядомасьць Алёіза Пашкевічанка. Пайменна тут яна, тады дзяўчына, атрымала ад іх годных ёй часам у бацькі і дзяды цёплую мянушку — Цётка, якую і абрала сваім літаратурным псэўдонімам. І калі ў беднай сялянскай сям'і на Лідчыне нарадзілася Алёіза Пашкевічанка, дык тут у Новай Вялейцы нарадзілася незабытная для нашага народу Цётка, што на чужыне марыла пра зварот туды:

> Дзе пацеркай белай Вяльля прабягае,
> Дзе Вільня між гораў гняздо сабе ўе.

Наш сіні Буг адбіўся і ў прыгожым апавяданьні Власта «Векавечная мяжа» і ў сугучным яму народным паданьні. За даўгія часы жыў зьмей Крыгавей, падпарадкаваны польскаму каралю Ляху ды варожы беларускаму князю Радару. Усё-ж аднойчы спаймаў Радар Крыгавея і, запрогшы ў саху, у якой лямех важыў 500 пудоў, пачаў пракладаць мяжу. Калі глыбокая разора дайшла да вялікае, тады яшчэ безназоўнае, ракі загадаў князь зьмею: «Гайда, бух!», каб той скакаў у раку. Зьмей, пераплыўшы на той бок, сканаў, але пасьпеў крыкнуць свайму гаспадару:

> — Помні, ляша, толькі па Бух наша!

З таго часу рака сталася Бугам і мяжой паміж двума народамі, беларускім і польскім, як рака Сан паміж польскім і ўкраінскім, што мае падобную прыказку:

> — Помні, ляша, па Сан наша!

Дарма расейскі паэта Пракоф'еў у сваёй паэме «Расея», паэтызуючы імпэрыялізм свайго, а нам адвеку варожага народу, зазначае:

> За вакном ляжыць Расея наша
> Ад Амур-ракі і за Дзьвіну.

Дарма ў тэй-жа пісаніне ён далей піша пра Расею:

> Няхай жыве Вялікая!
> Прыпала доля ёй
> Ад Буга і да Ціхага
> Падняць усіх на бой.

Дарма! Тымчасам! Крушыць Дзьвіна ў сваіх парогах жорсткі даламіт і плыве на захад родны сіні Буг.

На Беласточчыне, на рацэ Супрасьлі, што праз Нараў спалучаецца з Бугам, знаходзіцца старадаўны дрыгвіцкі горад, а цяпер мястэчка Супрасьль. Яшчэ ў 11 стаг. тут быў манастыр, ад якога дагэтуль захаваліся Супраскі летапіс і Эвангельле. Пазьней магнаты Хадкевічы аднавілі манастыр, пабудавалі ў ім выдатную па сваёй архітэктуры царкву і друкарню. Высокая царква, з чатырма вежамі па кутох і аднэй пасярэдзіне, нагадывала і старадаўную Полацкую Сафію і сярэднявечны замак, а ўнутры была расьпісаная ў 1557 г. фрэскамі. У ёй на працягу больш чым чатырох стагодзьдзяў перахоўваўся Цудатворны абраз Супраскае Божае Маці, які япіскап Ёсіф Салтан прывёз з Смаленску. Друкарня, дзе манахі-базыльяне друкавалі царкоўныя кнігі для ўсяе Беларусі, перайшла ў пачатку мінулага стагодзьдзя да друкара Арона ў Беластоку. У 1939 г., празь некалькі тыдняў пасьля свайго прыходу сюды, бальшавікі ператварылі царкву ў склад, зьнішчыўшы пры гэтым іканастас і папсаваўшы фрэскі. Няма ведама, дзе цяпер знаходзіцца абраз, перад якім з глыбокай верай маліліся Беларусы:

> Ня маем іншае дапамогі, ня маем іншае надзеі,
> акрамя Цябе, Маці Збавіцеля нашага.

На прытоку Супрасьлі рэчцы Белай, займеўшы ад яе свой назоў, шырака разьлёгся Беласток, адзін з найбольшых гарадоў Беларусі. Заснаваны яшчэ ў 1320 г. князем Гедымінам, ён доўгі час быў нязначнай вёскай, аж пакуль у пачатку 18 стаг. граф Браніцкі, швагер апошняга польскага караля Станіслава Панятоўскага, абраў яго сваёй рэзыдэнцыяй, пабудаваўшы палац, што захаваўся дагэтуль. Усё-ж не палац, а шматлікія хвабрыкі, што зьявіліся тут пасьля далучэньня гораду да Прусаў, садзейнічалі ягонаму вельмі хуткаму росту. І хаця Беласток ужо ладне часу, як выперадзілі ў галіне прамысловасьці Менск, Віцебск, Гомель, Магілёў, ён застаецца нашым ткацкім цэнтрам, уяўляючы для Беларусі тое, што для Ангельшчыны Манчэстар, для Расеі — Іванава Вазьнясенск, для Польшчы — Лодзь.

Прыгадаўшы Беласток і Супрасьль, нельга амінуць балючае для нашага народу пытаньне, якое акрамя Беласточчыны пашыраецца на частку Падлесься і Белавескае Пушчы. Сам Беласток зьяўляўся жыдоўскай выспай у беларускім моры. Паводля дадзеных Рамэра за 1909 г. Жыдоў тут налічвалася 82% у той час, як у Вільні 51%, а ў Віцебску 52%. Мы разумеем таму любоў Жыдоў да гэтага гораду, у выснаве якое ў Нью Ёрку паўстаў 10-павярховы будынак «Беластоцкага Цэнтру», а ў Ізраэлю вёска Беласток. Мы падзяляем трагэдыю жыдоўскага народу, калі 23 жніўня 1943 г. фашыстыя па зьвярынаму зьнішчылі ў Беластоку 40 тысяч Жыдоў. Беларусы, ня гледзячы на тое, што Немцы адразу далучылі Беласток да «III Райху» і варожа ставіліся да іхняга нацыянальнага руху, арганізавалі тут «Беларускае Аб'еднаньне», што займела 29 філіяў, стварыла 150 школаў, якія ахапілі 400 настаўнікаў і 18 тыс. вучняў, рэдагавала і выдавала беларускую газэту, якое 30 тыс. паасобнікаў адразу разыходзіліся. І вось Ялтанская канфэрэнцыя ў лютым 1945 г., аднаўляючы штучную лінію Кэрзона, вырашыла адарваць Беласток ад маскоўскае калёніі — БССР і перадаць яго маскоўскаму пратэктарату — Берутаўскай Польшчы. Праз кроў Жыдоў, закатаваных фашыстымі, празь сьлёзы Беларусаў, прымусова дэпартаваных адсюль бальшавікамі на ўсход, праз ласку Сталіна, сюды прыйшлі Палякі — асаднікі Берута. Аднак добра заўважыў аб гэткіх падзелах наш народны паэта:

> Нас падзялілі! Хто? Чужаніцы!
> Чорных дарог махляры!
> К чорту іх межы! К д'яблу граніцы!
> Нашы тут гоні, бары.

**(Далей будзе)**

# Студэнцкі Стыпэндыяльны Фонд

На другім агульным зьезьдзе Цэнтралі Беларускіх Студэнцкіх Арганізацыяў на Чужыне ўвосень 1947 году ў Марбургу (Нямеччына) быў зацьверджаны статут і выбраная ўправа Студэнцкага Стыпэндыяльнага Фонду пры ЦБСА. У актуальным статуце ССФ чытаем:

**«Характар, мэта й заданьне ССФ:** Пры ЦБСА на чужыне засноўваецца Студ. Стып. Фонд, як установа, якая нясе дапамогу беларускім студэнтам. **Мэтай ССФ** ёсьць даваньне дапамогі тым беларускім студэнтам, што яе патрабуюць, ды якія адказваюць вымаганьням пункту 9-га гэтага-ж статуту (дзе гаворыцца аб працэдуры прызнаньня стыпэндыяў, аб праве на іх і дакумантацыі заяваў). **Заданьнем ССФ** ёсьць зьбіраньне сяродкаў ды разьмеркаваньне іх паміж патрабуючых студэнтаў.

**«Абсяг дзейнасьці:** ССФ пры ЦБСА (цяпер ЦБАА) праводзіць сваю дзейнасьць за межамі Беларусі ўсюды, дзе знаходзяцца Беларусы.

**«Ворганы ССФ:** Ворганамі ССФ зьяўляюцца: агульны зьезд ЦБАА і ейная рэвізійная камісія, управа ССФ і стыпэндыяльная камісія.

**«Стыпэндыяльная камісія** складаецца із старшыні ЦБАА і аднаго сябры ўправы ЦБАА, з усяе ўправы ССФ і аднаго прадстаўніка беларускае цэнтральнае ўстановы (арганізацыі) ў тэй дзяржаве, у якой у дадзены мамэнт прабывае ўправа ССФ або ягоная філія (прадстаўніцтва).

**«Управа ССФ** складаецца із старшыні, які зьяўляецца адначасна рэфэрэнтам сацыяльнае апекі ў управе ЦБАА, з сакратара й скарбніка.

**«Кантрольным ворганам ССФ** зьяўляецца рэвізійная камісія ЦБАА.

**«Права ўгляду ў дзейнасьць ССФ** маюць: беларуская цэнтральная грамадзкая ўстанова, паасобныя беларускія й небеларускія арганізацыі (гэтыя апошнія, калі яны маюць свой грашовы ўклад у ССФ) і прыватныя асобы, якія маюць свой уклад у Фондзе.

**«Прызнаньне стыпэндыяў.** Права на стыпэндыю мае кажны беларускі студэнт(-ка), які зьяўляецца актыўным студэнтам на андэй з вышэйшых навуковых установаў.

**«Права прызнаньня стыпэндыяў** мае выключна Стыпэндыяльная Камісія.

**«Стыпэндыі прызнаюцца** на падставе заяваў, дакумэнтаваных пасьветкамі аб пільнасьці мінімум з двух асноўных прадметаў або пасьветкамі аб здаваных эгзамінах.

**«Заявы трэба складаць** праз мясцовыя беларускія акадэміцкія (студэнцкія) арганізацыі. Управы адпаведных арганізацыяў рэкамэндуюць дадзенага студэнта, бяручы пад увагу ягонае матар'яльнае палажэньне ды ягоныя нацыянальныя ды маральныя вартасьці.

**«Аднаразовыя дапамогі** прадбачваюцца таксама статутам для неактыўных студэнтаў (акадэмікаў): 1) у выпадку хвраобы студэнта і 2) для абсальвэнтаў вышэйшых навучальных установаў, якія працуюць над здабыцьцём навуковае ступені. Належная дакумэнтацыя ў вадным і другім выпадку абавязковая.

* * *

Гэтых некалькі пунктаў, выбраных із статуту ССФ, маюць на мэце паінфармаваць усіх тых, каму ня ведамая гэтая так важная ўстанова нашага студэнцкага жыцьця на чужыне, якая мае ўжо за сабою багатую дзейнасьць і традыцыю, аб чым ніжэй.

Тады, калі ў ангельскай і францускай зонах Нямеччыны акупацыйныя ўлады доўга апекаваліся студэнтамі-чужынцамі (ДП), у зоне амэрыканскай, пасьля разьвязаньня ўнівэрсытэту УНРРА ў Мюнхэне і Студэнцкага Чужынецкага Дому ў Марбургу, найболшая частка беларускага студэнцтва ў Нямеччыне апынулася проста на бруку, здадзеная на свой собскі промысел. Гэтыя-ж студэнты, самі перажываючы цяжкае, часам бязвыхаднае становішча, стварылі Студэнцкі Стыпэндыяльны Фонд ды разгарнулі шырокую акцыю, імпануючыя вынікі якое трэба заўдзячваць бязумоўна, вялікай ахвярнасьці беларускай эміграцыі, прадстаўніком Фонду ды дзейнасьці як управы ССФ, так і ЦБСА.

На заклікі Фонду пасыпаліся шчодрыя ахвяры зь лягероў беларускіх ДП і з усіх куткоў сьвету, куды лёс ужо пасьпеў закінуць нашых суродзічаў.

У хуткім часе ўжо тысячы нямецкіх марак пазволілі прыдзяляць стыпэндыі й дапамогі шматлікім беларускім студэнтам, якіх кніжка выплатаў налічвае 52 асобы. На 56 заяваў усяго 4 атрымалі адмоўны адказ. Да нямецкае грашовае рэформы было прызнана Фондам 15 стыпэндыяў I-ае катэгорыі, што забясьпечвала студэнту кватэру, утрыманьне й аплату за навуку; 8 стыпэндыяў II-ое катэгорыі — аплата памешканьня й навукі; і 4 стыпэндыі III-яе катэгорыі — аплата навукі. Рэшта — гэта кароткатэрміновыя пазыкі і іншага роду дапамогі.

Дзякуючы дакладнаму справазданьню ўправы ССФ на 3-ім зьезьдзе ЦБСА ў Лювэне ў 1949 г., за час ад 2. XI. 47 да 16. X. 49, бачым даход Фонду на суму 28.073,69 нямецкіх марак грашыма і 5.630 рознага гатунку ў натуры. Выдаткі за гэты-ж час выносілі 26.078,73 ням. марак. Сумы гэтыя вялізарныя, калі мець на увазе, што ніякі магнат і ніякая дзяржаўная каса не падтрымоўвалі фонду, а толькі дабраахвотныя ахвяры нашага грамадзтва на чужыне, студэнцкія імпрэзы ды зварот старых стыпэндыяў. У гэтым-жа справазданьні падкрэсьліваецца вялікая ахвярнасьць ды праца на карысьць Фонду сп-ра Прэзыдэнта БНР, Дванаццаткі з Ангельшчыны, Беларусаў з Канады й Ангельшчыны, Аб'еднаньня Беларускіх Лекароў на Чужыне, айца Льва Гарошкі і Беларусаў лягеру Остэргофэн. Лісты ахвярадаўцаў паказваюць, што ня толькі акадэмікі ды абсальвэнты школаў, але перадусім Беларусы з пачатковай асьветай, разумелі палажэньне й патрэбы студэнтаў ды дзяліліся шчодра сваім сьціплым майном ДэПі ў грашох і натуры, дзяліліся з тымі, што імкнуліся да асьветы для дабра беларускае справы.

Нямецкая грашовая рэформа з 20. VI. 1948 юрыдычна зраўнала багатых зь беднымі, але ў практыцы бедных, а ў тым ліку й беларускіх студэнтаў, зруйнавала няміласэрна, бо атрыманыя імі стыпэндыі прапалі. Прапала й сальдо Фонду, замарожанае ў нямецкім банку. Разумнай гаспадаркай управа ССФ захавала ахвяры ў форме цыгарак і продаж іх была йзноў выходным пунктам у цяжкай сытуацыі. Зразумела, што такая фінансавая падзея затармазіла шырокую дзейнасьць ССФ. Адмоўным зьявішчам была тады й ліквідацыя беларускіх лягераў ды эміграцыя нашага грамадзтва за межы Нямеччыны на новыя этапы жыцьця. Дзякуючы аднак ахвярам арганізацыяў і паасобных адзінак, за 1948/49 акадэміцкі год ССФ сабраў 3.351 ням. марку, з чаго меў магчымасьць аказаць дапамогу яшчэ 23 сябром-студэнтам у форме пазык ад 50 да 150 ням. марак і 2 сябром заплаціць за дзяржаўныя эгзамены.

Пасьля 3-га зьезду ЦБСА, (тады-ж перайменаванага на Цэнтралю Беларускіх Акадэміцкіх Арганізацыяў [ЦБАА]) у 1949 г. у Лювэне, управа ССФ перайшла з рук студэнтаў у рукі акадэмікаў, адлучылася ад Цэнтралі і пачала вэгэтаваць. У дачыненьні да пэўнай колькасьці студэнтаў, што засталіся ў Нямеччыне дзеля заканчэньня студыяў, ССФ сябе зусім не апраўдаў. Касавая кніга за чатыры гады (1949—1953) выказвае даход 78 ангельскіх фунтаў, з чаго 72 фунты было выплачана на дапамогу студэнтам. Тым ня менш і гэтая сума мела сваіх ахвярадаўцаў і вымагала дзейнасьці ўправы ССФ. Із справазданьня за ўспомненую кадэнцыю чытаем асаблівыя падзякі сп-чні Р. Жукоўскай у Канадзе, сп-ру Клімовічу ў Аргэнтыне і сп-ру Нікану ў Аўстраліі. З гэтага-ж справазданьня чытаем, што за чатыры гады кадэнцыі апошняе ўправы ССФ ніводзін зь беларускіх студэнтаў-даўжнікоў не зьвярнуў раней атрыманае пазыкі. Стан гэты анармальны і таму цяперашняя ўправа ССФ ізь сядзібай у Лювэне, якое кадэнцыя пачалася ад 4-га зьезду ЦБАА ў кастрычніку 1953 г., паставіла на першы плян свае акцыі ажыўленьне звароту стыпэндыяў і пазык ССФ. Да гэтае пары ўправа ня можа пахваліцца вялікімі ўдачамі ў гэтай справе, але акцыя пачатая, ёсьць водгукі і пазытыўная рэакцыя. Тымчасам каса Фонду амаль пустая, але пры добрай волі й пачуцьці нашых даўжнікоў можам мець сумы, а праз гэта й здольнасьць да дапамогі ў найцяжэйшых выпадках, аб якіх ведаем і таму алярмуем і будзем алярмаваць ды прасіць нашых даўжнікоў і беларускае грамадзтва зноў памагчы ажывіць жыцьцяздольнасьць і працаздольнасьць гэтай так важнай установы, тым больш, што з-за мора сыгналізуюць хмары. Беларуская публічная апінія алярмуецца нястачай матар'яльных крыніц і ўмоваў для студыяў для ўсё больш і больш шматлікае беларускае моладзі на эміграцыі. «Але ў наступным годзе будзе горэй», — папераджае сп. Скарыніч у артыкуле «Да бакалаўраў, магістраў і іншых» (гл. «Бацькаўшчына» з 27. 11. 55).

Мы вельмі ўдзячны сп-ру Б. Скарынічу, што справакаваў нас да гэтай вычэрпваючай інфармацыі аб Студэнцкім Стыпэндыяльным Фондзе. Вітаем паважанага сп-ра Б. Скарыніча ў радох тых, што змагаюцца за вельмі важную справу дапамогі студэнцтву ды навуковым працаўніком. Мы будзем шчыра вітаць кажнага пашыральніка гэтае справы, адначасна просячы яго гуртаваць тых, што гэтую справу разумеюць, ды выясьняць тым, каму яна яшчэ абыякавая. Спадзяемся, што справа гэтая знойдзе свой водгук і надалей у нашай прэсе і змабілізуе нашую грамадзкую апінію дзеля разьвязаньня гэтага пытаньня.

Цешымся адначасна за змогу паінфармаваць дакладна сп-ра Б. Скарыніча і ўсіх, каго справа ўмоваў навукі і бытаваньня нашага студэнцтва вельмі турбуе, даючы багатую дакумэнтацыю аб існаваньні сярод беларускае эміграцыі адумысловага Студэнцкага Стыпэндыяльнага Фонду ўжо зь вялікім стажам і поўным правам да жыцьця.

Ёсьць два прынцыпы, якія ССФ бароніць і будзе бараніць:

1) Утрымаць ССФ, як цэнтральную ўстанову, пры цэнтральнай студэнцкай і акадэміцкай арганізацыі ЦБАА. Мы супраць разьбіцьця дапамаговае акцыі беларускаму студэнцтву на чужыне на фондзікі ў розных краінах, бо гэта абніжае сілу самога фонду і цяжар ягонае павагі ў эвэнтуальных захадах дзеля шуканьня матар'яльных крыніцаў. Статут ССФ дазваляе на шырокую самадзейнасьць сваіх філіяў і прадстаўніцтваў, што дае магчымасьць дапасаваць дапамаговую акцыю студэнцтву да спэцыфічных абставінаў паасобных краінаў і ня выключае супольнай акцыі. За гэты прынцып вядзём цяпер перамовы зь Беларускім Студэнцкім Таварыствам у ЗША.

2) Мы не дазволім на дэградацыю ССФ пры ЦБАА да «пазычальнае арганізацыі» ды яшчэ на працэнты. У маральным фундамэнце ССФ ляжыць багатая й высокая ідэя **самадапамогі.** Гэтая ідэя студэнцкае самадапамогі так старая напэўна, як і самое студэнцтва. Зрэалізаваная ў нас у форме ССФ, яна не павінна загінуць, а ўтрымаць арганізацыйную цягласьць, дзе старэйшыя папаўняюць касу студэнцкага дапамаговага фонду правам натуральнай зьмены пакаленьняў.

Ня можна забыцца, што ў мінулым, у пэрыядзе матар'яльнага, а перш за ўсё маральнага багацьця нашага ССФ, былі ахвяры ад найчысьцейшага сэрца тых эвангельскіх бедных жанчын-удоваў, што гледзячы радасна на цьвет беларускае студэнцкае моладзі і з сумам думаючы аб сваіх дзецях, рассыпаных па сьвеце, несьлі ў дапамогу гэтаму студэнцтву ўсё апошняе і найдаражэйшае. Тварэньне новых паралельных арганізацыяў дзеля тае самае мэты рэзка супярэчыла-б гэтай традыцыі. Ужо багатае дасьветчаньне нашага эміграцкага жыцьця паказвае, што паралельныя арганізацыі нічога пазытыўнага ня прыносяць, а шкодзіць — шкодзяць.

Другой справай было-б стварэньне Беларускага Навуковага Фонду дзеля матар'яльнай дапамогі навукоўцам, што працуюць над беларускімі праблемамі або над досьледамі зь беспасрэднай карысьцю для беларускае справы. Мы цытавалі із статуту ССФ аб магчымых аднаразовых дапамогах для абсальвэнтаў вышэйшых школаў, што працуюць над асягненьнем навуковай ступені. Характар самое ЦБАА, якая паводля прынцыпаў, прынятых на 3-ім Зьезьдзе, мае гуртаваць усіх студэнтаў і акадэмікаў, ня супярэчыць, каб такі фонд быў спалучаны ў вадзін. Другім выхадам ёсьць стварэньне пры аднэй з навуковых установаў, як, напрыклад, БІНіМ, такога навуковага фонду.

**Управа Студэнцкага Стыпэндыяльнага Фонду**



# Абвешчаньне ялтанскіх дакумэнтаў

(Заканчэньне зь 1-ай балоны)

на стацца галоўнай прычынай усяго сусьветнага зла, заіснаваўшага пасьля апошняе вайны. Таму нічога дзіўнага, што апінія сьвету жыва зарэагавала на факт паданьня да публічнага ведама ялтанскіх пратаколаў.

У самой Амэрыцы апінія ў справе апублікаваньня дакумэнтаў падзеленая. Рэспубліканцы, якія дамагаліся даўно апублікаваньня ялтанскіх дакумэнтаў і якія маюць іх выкарыстаць у прэзыдэнцкіх выбарах у наступным годзе супраць дэмакратаў, ужо сяньня закідаюць, што Рузвэльт з Чэрчылям падаравалі Сталіну ў 1945 годзе наіўны давер, што стаўся прычынай зла сяньняшняга дня. Дэмакраты-ж паклікаюцца на тое, што заходнія мужы абавязкава мусілі дабіцца ў 1945 годзе ўдзелу Саветаў у вайне супраць Японіі, бо ў праціўным выпадку вайна гэтая бяз удзелу СССР, як у той час уяўляў сабе Захад, кaштавала-б Амэрыцы лішнія мільёны амэрыканскіх жаўнераў.

«Нью Ёрк Таймс» пісаў 18 сакавіка, што абвешчаньне дакумэнтаў будзе мець вялікі ўплыў на палітыку вольнага сьвету. «Дакумэнты памогуць задэманстраваць усю неразумнасьць і немаральнасьць усякай спробы дасягнуць з Саветамі пагадненьня на базе «статусу кво», які на век замацоўвае паняволеньне народаў». «Нью Ёрк Дэйлі Ньюс» піша, што дакумэнты паказалі, хто вінаваты ўдзячнасьць прэзыдэнту Рузвэльту. Амэрыканскі народ ня вінен яму нічога, тады, калі Брытанцы вінаватыя яму трохі ўдзячнасьці. Затое Расейцы й кітайскія камуністычныя бандыты, разбойнікі й забойцы заўдзячваюць яму шмат. «Вашынгтон Пост» заняў нэгатыўнае становішча да абвешчаньня дакумэнтаў. Газэта піша, што Дальлес, неспадзявана абвяшчаючы дакумэнты, рабіў гэта ў імя партыйнай палітыкі. Гэтае апублікаваньне, на думку газэты, задало цяжкі ўдар амэрыканскай дыпляматыі і прэсьціжу ЗША.

У Вялікабрытаніі апублікаваньне ялтанскіх дакумэнтаў атрымала назву «Y-бомбы» (паангельску Ялта пішыцца цераз «Y» — Yalta). На гэтую тэму выказваецца мноства прыпушчэньняў, разгараюцца ўзаемныя спрэчкі, аднак ангельская прэса не ўважае, каб апублікаваньне дакумэнтаў выклікала глыбокія камплікацыі, так як ялтанскія пастановы ў васнаўным былі ўжо ведамыя, галоўна з успамінаў Чэрчыля. Агульнае становішча Ангельшчыны ўсё-ж нэгатыўнае, а прэса камэнтуе, што ялтанскія дакумэнты ў найгоршым сьвятле выстаўляюць Амэрыку, а ў найлепшым — Саветы.

У Францыі, дзе прэса вельмі жыва зарэагавала на абвешчаньне дакумэнтаў, як на найбольшую сэнсацыю дня, апінія як і ў Амэрыцы, падзеленая.

Апублікаваньне дакумэнтаў Ялты можа прывесьці да двух важных палітычных вынікаў. Гэтыя дакумэнты зьяўляюцца войстрым асуджэньнем Савецкага Саюзу, які ніводнае з гэтых пастановаў не датрымаў, такім-жа войстрым асуджэньнем палітыкі даверу і ўступак для Савецкага Саюзу, зробленых англа-амэканскімі дзяржавамі падчас і пасьля апошняй вайны, і, адначасна, асуджэньнем далейшых спробаў дагаварвацца з Савецкім Саюзам на найвышэйшым шчэблі. Ялтанскія перагаворы вяліся таксама якраз на найвышэйшым шчэблі, вынікі якіх для Захаду аказаліся трагічныя. Адсюль можа і павінен быць зроблены вывад, што і далейшыя эвэнтуальныя пагадненьні з Саветамі на найвышэйшым шчэблі, абапёртыя на такімжа даверы і ўступках, прывядуць да такіх-жа трагічных вынікаў. Разважаючы ў такой роўніцы, ёсьць падставы думаць, што апублікаваньне ялтанскіх дакумэнтаў зьяўляецца наступным вязьмом у ланцугу завастрэньня антысавецкай палітыкі Задзіночаных Штатаў і адмовы ад коэгзыстэнцыі. Ялтанскія канцэпцыі былі будаваныя на веры ў магчымасьць коэгзыстэнцыі двух сьветаў. З пэрспэктывы дзесяцёх год, якія нас дзеляць ад ялтанскай канфэрэнцыі, гэтая коэгзыстэнцыйная канцэпцыя пацярпела поўнае банкроцтва.

З другога боку абвешчаньне ялтанскіх пратаколаў хавае ў сабе надзею, што рэспубліканская партыя вернецца да лёзунгу палітыкі вызваленьня. Як ведама, пад гэтым лёзунгам і пад лёзунгам ануляваньня ялтанскіх пастановаў ішлі рэспубліканцы на апошнія прэзыдэнцкія выбары і на іх перамаглі. Потым-жа лёзунгі гэтыя ў імя прынцыпу суіснаваньня з Саветамі былі забытыя. Аднэй з галоўных прычынаў апублікаваньня ялтанскіх дагавораў ёсьць прыдбаць моцныя аргумэнты супраць палітыкі дэмакратычнай партыі ў прэзыдэнцкіх выбарах, што адбудуцца ў 1956 годзе. Калі трымацца пасьлядоўнасьці, рэспубліканцы будуць змушаныя тады асуджаць ня толькі Ялту, але й палітыку паняволеньня, якая ялтанскімі пастановамі была ўсанкцыяваная. Праўда, можна быць сцэптыкам і ўважаць, што як у папярэдніх выбарах палітыка вызваленьня была прынцыпам, але толькі тактычным перадвыбарным манэўрам, ад якой потым не асталося і сьледу, гэткі-ж самы лёс спаткае яе й цяпер. Але з роўным правам можна думаць і адваротнае.

У кажным выпадку значэньня апублікаваньня тайных ялтанскіх дакумэнтаў нельга звужаць толькі да нутранай амэрыканскай палітыкі. Гэтая справа можа мець вялікі ўплыў і на вонкавую палітыку Амэрыкі.

**(-іч)**

### ЗАХОЎВАЙМА ХОРМУ СВАІХ НАЗОВАЎ

**(Заканчэньне з 3-яй балоны)**

жа зь ёю расстацца, хай хоць ужывае **Byeloruś,** а не **Byelorussia.**

Няма нічога дурнейшага, як пісаньне ў расейскай мове **«белорусс»** (з двума **сс),** а тымчасам усе Расейцы гэтак пішуць. Пісаў гэтак і Карскі і апраўдваўся ў канцы трэйцяе кніжкі II тому «Белоруссов», кажучы, што два **сс** тут непатрэбныя, але гэта подля аналёгіі з двума **сс** у **«белорусский».** Але справа тут не ў аналёгіі, а ў тым, што ў нас і на Украіне заўсёды пісалі **«руски»** (з адным **с**), а ў Масковіі **«русский»** (з двума **сс**); дзеля таго, хочучы падчыркнуць рускасьць, пачалі пісаць другое **с** і ў такіх словах ад караня **«рус»,** у якіх гэнага **с** ніадкуль узяць нельга. **«Прус»** (балцкі) з двума **сс** ня пішуць, дарма што **«прусский»** парасейску пішуць з двума **сс.**

Пажадана, каб пішучыя пабеларуску выказаліся што да гэтага майго праекту.

**Я. Ст.**

# Агульны Зьезд БІНіМ

12 сакавіка 1955 г. ў Нью Ёрку адбыўся Агульны Зьезд Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва. Зьезд правёў крытычны агляд дзейнасьці Інстытуту за мінулыя два гады, абмеркаваў галоўныя заданьні працы на будучыню ды перавыбраў улады Інстытуту. У новую ўправу Інстытуту выбраныя: др. Вітаўт Тумаш — старшыня, сп. Антон Адамовіч — віцэстаршыня, сп-ня Натальля Арсеньнева — сакратар, інж. Мікола Гарошка — скарбнік, сп. Антон Шукялайць — архівар.

У наглядную раду Інстытуту выбраныя: праф. Леў Акіншэвіч, мгр. Пётра Манькоўскі, сп. Рыгор Крушына.

Пры абмяркоўваньні пляну працы Інстытуту на будучыню Зьезд, апрача шмат іншых справаў, прызнаў патрэбу пачаць ужо сёлета прыгатову належнага адзначэньня вельмі важных нацыянальна-культурных угодкаў, якія прыпадаюць у 1956 г. — 50-годзьдзе ад выхаду **Нашай Долі** й **Нашай Нівы.**

Зьезд устанавіў, што час ужо цяпер зьвярнуць увагу беларускага грамадзтва на патрэбу належнага адзначэньня ў 1956 г. угодкаў гэтых двух эпохатворчых у гісторыі беларускага нацыянальнага адраджэньня часапісаў. Заданьнем Інстытуту ёсьць парабіць захады для збору й сваячасовай публікацыі дакумэнтаў, матар'ялаў і працаў пра ўмовы паўстаньня, разьвіцьця й гістарычнага значэньня абодвух часапісаў, матар'ялаў пра жыцьцё й літаратурна-грамадзкую дзейнасьць усіх важнейшых супрацоўнікаў часапісу, у першую чаргу біяграфічных матар'ялаў пра братоў Івана й Антона Луцкевічаў, як галоўных ініцыятараў і тварцоў **Нашай Долі** й **Нашай Нівы.**

### АБВЕСТКА

Падаецца да ведама ўсіх беларускіх выдавецтваў на чужыне, што Беларуская Кальпартажная Агенцыя ў В. Брытаніі прыймае для кальпартажу беларускую эміграцыйную прэсу ды для прадажы кніжкі, паштоўкі і грамафонныя пліткі на камісовых умовах.

Беларуская Кальпартажная Агенцыя высылае таксама зь В. Брытаніі іншамоўную прэсу, кніжкі, а таксама прэсу, кніжкі ды грамафонныя пліткі беларуска-савецкага выданьня.

Па інфармацыі зварочвацца на адрас Агенцыі:

B. K. A. c/o A. Laszuk, 97, Moore Park Rd.,
London, S. W. 6, England